# ГЭТА МЫ !



ВЫДАНЬНЕ ЗАСНАВАНА МЕНСКІМІ РАДАМІ МАЛАДОГА ФРОНТУ БНФ

№2

## *ЯНЫ ЙШЛІ Ў ПЕРШЫХ ШЫХТОХ, СУПРАЦЬСТАЮЧЫ АКУПАЦЫІ*

### ВАДЗІМ ЛАБКОВІЧ



Родам зь Менску. 16 гадоў. Вучань 11-ае клясы 95-ае школы г.Менску. Добра вучыцца. Першы раз быў затрыманы вясной 1997г. падчас масавае моладзевае маніфэстацыі супроць дыктатарскага рэжыму. Зноў арыштаваны 28 жніўня. Абвінавачаны па арт. 201 ч.2 і 86 ч.2. Крымінальнага Кодаксу "злоснае хуліганства" й "зьнявага дзяржаўнае сымболікі"). Кадэбісты лічаць, што ён разьвешваў у горадзе беларускія бел-чырвона-белыя сьцягі.

Маці: Лабковіч Ядзьвіга Язэпаўна, таваразнаўца. Выхоўвае адна Вадзіма й меншага сына 4-х клясьніка. Маці Лабковіча адмовілася на запатрабаваньне пракурора Стаўпецкага раёну даваць паказаньні супроць сына. За гэта пракурор не дазволіў ёй спатканьне з сынам (што зьяўляецца пакрушэньнем закону, тым больш, што Вадзім непаўналетні).

### АЛЯКСЕЙ ШЫДЛОЎСКІ



Студэнт 1-га курсу журналісцкага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту. 18 гадоў (нарадзіўся 27. 12.1978). Выключаны з унівэрсытэту летам 1997г. за палітычную дзейнасьць у "Маладым Фронце". Вясной 1997 году быў арыштаваны на 10 сутак за ўдзел у студэнцкіх дэманстрацыях пратэсту супроць рэжыму. Трымаў галадоўку.

Родам з Стоўбцаў. Бацька: Міхась Пятровіч, працуе кіроўцам. Маці: Раіса Янаўна, працуе на раённай пошце. Арыштаваны 25-га жніўня. Прад'яўленыя тыя ж абвінавачаньні, што й Лабковічу. Сьледчы, які вёў справу ў Стоўбцах: Папін Васілій Сьцяпанавіч. Пракурор: Мяцельскі Сяргей Васілевіч. З Стоўбцаў Аляксея перавялі ў Жодзіна. Там ён абвясьціў галадоўку. За гэты быў па-зьверску зьбіты адміністрацыяй Жодзінскае сьледчае турмы. Страціў прытомнасьць. Трапіў у рэанімацыю турэмнага шпіталю. ►

### ВАДЗІМ КАБАНЧУК



Выпускнік Беларускае Палітэхнічнае Акадэміі, аўтатрактарны факультэт, 22 гады. Арыштаваны 12 кастрычніка пасьля масавае акцыі Народнага Фронту за ўдзел у веснавых дэманстрацыях. Знаходзіцца ў сьледчай турме ў Менску. Нарадзіўся ў жніўні ў Бабруйску.

Бацька: Міхась Апанасавіч, рабочы. Маці: Тацьцяна Карпаўна, бібліятэкар. Два прадзеды Вадзіма загінулі ў сталінскіх лягерох у Сібіры. Бабуля пры Сталіне адсядзела 8 гадоў і вярнулася зь лягероў сьляпой. У турме ў Вадзіма абвастрыліся хваробы нырак (піялянэфрыт), горла й сэрца. Маці забаранілі перадаваць яму лекі.

Абвастрыліся хваробы: арытмія сэрца, астматычныя прыступы, запаленьне нырак.



**Мая краіна - ня райскі сад,**
**Маёй краінай кіруе кат.**
**Бо хто шчыруе на свой народ,**
**Таго прасуе каваны бот.**
**Адных за краты, другіх у бруд,**
**Жаўнеры ката пануюць тут.**

**А ты, мой хлопча, глядзі, зважай**
**Жаўнеры крочаць, жаўнеры спрэс,**
**За полем, хлопча, дарога ў лес.**
**Чужыя вочы ў прыцэл глядзяць.**
**Дык вось што, хлопча,**
**вучысь страляць**

# Прататып годнасьці

*Алесь Міксовіч*

У канцы 1997 году ў Асіповічах адбыўся беспрэцэдэнтны ва ўсіх адносінах выпадак. І галоўная дзейная асоба ў ім – сябра "Маладога Фронту".
У апошнюю нядзелю сыйшоўшага году, 28-ага сьнежня, ў вайсковай частцы гораду Асіповічы маладыя хлопцы-навабранцы прыймалі афіцыйную прысягу на вернасьць "Беларусьсіі". Натуральна, адбывалася ўсё гэта пад дзяржаўным эрбэшным сьцягам чырвона-зялёнае расфарбоўкі. І йшло б тое прыняцьце прысягі, як заўсёды, ціха-мірна, але неспадзявана для звыклых з працэсам вайсковых камандзераў нейі хлопец з ганарлівымі маланкамі ў блакітных беларускіх вачох дзёрзка кінуў ім у твар адмову: "Пад гэтай анучай прысягаць Бацькаўшчыне я ніколі ня буду!" І, не чакаючы на рэакцыю аслупянелых лукашэнкаўскіх жаўнераў, ён плюнуў у схіленае палотнішча, жвава разарваў яго й з годнасьцю дадаў: "Беларусі я буду прысягаць пад Беларускім, бел-чырвона-белым, штандарам!"
Апрытомеўшы ад імгненнага шоку, вайсковае кіраўніцтва асіповіцкае часткі зь пенай ля роту загадала схапіць мужнага хлопца й увесьці з пляцоўкі здарэньня.
Інфармацыі аб далейшым лёсе Алеся Садзьковіча (менавіта гэтак завуць няскоранага хлопца-сябра магілеўскае арганізацыі Маладога Фронту "Патрыёты Бацькаўшчыны. Рух у Эўропу") скрайне мала. Можна сказаць, што аб мейсцы ягонага ўтрыманьня, стане здароўя зусім нічога невядома. Не выклікае зьдзіўленьня й пазыцыя бацькоў Алеся – яны настойваюць, што ўсё цудоўна, нічога экстраардынарнага ня здарылася, зь іхным сынам усё добра, і ён працягвае служыць у войску – нельга выключыць і вэрсію таго, што бацькоў Алеся звычайным чынам запалохалі. Напэўна, прыгразіўшы "пагаршэньня фізычнага стану" іхнага сына, бацькам забаранілі даваць якую-кольвек вядомую ім інфармацыю. Але, як паведамілі ў магілеўскай філіі МФ, ёсьць дакладныя зьвесткі сапраўднасьці гэтае справы й знаходжаньне сп.Садзьковіча ў турме.
Паплечнікі Алеся ня кінулі яго ў цяжкім стане: у студзені адмыслова дзеля высьвятленьня падрабязнасьцяў увязьненьня хлопца ў Асіповічы езьдзіў сп. Антось Фёдараў, кіраўнік магілеўскае арганізацыі БНФ; хутка ў Магілеў ды Асіповічы мае выправіцца група маладафронтаўцаў зь Менску па гэтыя ж мэты.
Як было адзначана, назіраецца частковая (й, спадзяемся, часовая) адсутнасьць інфармацыі, бязь якое нават агульныя абрысы інцыдэнту набываюць няпэўны выгляд. Але відавочна адзінае – гонару й мужнасьці Алеся Садзьковіча можна пазайздросьціць. Без сумневу, толькі гэткія цьвёрдыя ў сваіх перакананьнях Змагары адродзяць Беларусь!

21 сьнежня 1997 году на трэйцяе паседжаньне сабраліся сябры Цэнтральнае Рады "МФ". Павестка дня шчучала шэсьць пытаньняў, сярод якіх асабліва можна адзначыць пытаньні кадраў, да выбараў у ЦР, прыняцьце палажэньняў аб мерах пакараньня ў "МФ" і палажэньня аб структурызацыі ў арганізацыі.

# Цэнтральная Рада: безь нечаканасьцяў.

*Алесь Міксовіч*

Пасьля доўгага выступу В.Сіўчыка з дакладам "Беларуская пэрспэктыва" абмеркаваньне другога, кадравага, пытаньня з згоды грамады ЦР было абвешчанае зачыненым. Але перш чым рашэньне ўступіла ў сілу, слова ўзяў сп.Л.Баршчэўскі. Ён адзначыў, што зачыняць паседжаньне было б няварта, бо няма вострае неабходнасьці, й гэта проста некарэктна – утойваць нешта ад прысутных там звычайных сябраў "МФ". Калі "МФ" de-facto зьяўляецца часткай БНФ і абапіраецца на ягоныя структуры, дык трэба выконваць статут БНФ, дзе занатавана, што "усе ворганы БНФ дзейнічаюць на прынцыпах публічнасьці й калегіяльнасьці (неадзінасобнасьці)". Тым ня менш рашэньне прынятае й усе ня сябры ЦР выйшлі.
Як высьветлілася, пад кадравым пытаньнем разумелася выключэньне сябра Цэнтральнай рады В.Рымашэўскага з складу Управы "МФ" БНФ ды зьняцьцё яго з пасады кіраўніка каардынацыйнага адзьдзелу "МФ". Пасьля гучных спрэчак наконт гэтага адбылося галасаваньне. Рашэньне было прынятае з другога разу, бо пад час першага галасаваньня для прыняцьця не хапіла галасоў. У знак нязгоды сп. В.Стэфановіч, каардынатар менскіх раённых радаў "МФ", заявіў, што ня мае маральнага права надалей заставацца на сваёй пасадзе. Але ЦР адмовіла яму ў адстаўцы.
Паводле прынятага потым "Палажэньня аб абраньнях у ЦР", апошняя мае фармавацца на 50% з прадстаўнікоў тэрытарыяльных Радаў "МФ" і на 50% адсоткаў – з дэлегатаў Сойму.
Дыскусію выклікала "Палажэньне аб мерах пакараньня ў "МФ". Згодна з канчатковым варыянтам, прынятым грамадой, цяпер за ўчынкі, што ганьбяць гонар і годнасьць сябра "МФ", за дыскрэдытацыю "МФ" і г.д. на сябра "МФ" могуць накладацца разначынныя меры пакараньня, ад папярэджаньня да выключэньня з шэрагаў "МФ". Будзем спадзявацца, што гэта будзе скрайняя мера, і суб'ектывізацыі, а тым больш злоўжываньня не будзе.
"Палажэньне аб структурызацыі ў "МФ" асаблівага дыспуту выклікаць не змагло ў прынцыпе, бо амаль цалкам яно ўзятае з разьдзелу "удзел у БНФ" Статуту БНФ.
Трэйцяе паседжаньне, прайшло без раптоўнасьцяў. Усе прапанаваныя на павестку дня рашэньні былі прынятыя. Кожнае пытаньне было адладжанае й выверанае да дробязяў. Напэўна, гэтак і мусіць быць у герархічнай арганізацыі.

# Вяршэнства Ідэі.

Сярод сябраў шматлікіх беларускіх маладзёвых арганізацыяў і рухаў адметнае мейсца займаюць маладафронтаўцы, якія сваёй экспансіяй у рэгіёны й самаадданай якаснай працай перакрываюць усе астатнія маладзёвыя арганізацы. Нават, сумнавядомы БПСМ з глябальнай дзяржаўнай падтрымкай і фінансавай накачкай у рэальных выніках сваёй працы ня можа параўнацца паводле эфектоўнасьці з "МФ".
Хтосьці скажа, што "МФ" дасягнуў гэтае вышыні дзякуючы моцнай структуры БНФ "Адраджэньне", на які абапіраўся пад час запачаткаваньня й структурызацыі. Частова гэта мае рацыю. Але ж прыклад БПСМ, у якога непраўнальна большая падтрымка з боку кіруючага рэжыму, яскрава паказвае, што зусім ня гэта асноўнае.
Галоўнае ў дзейнасьці – гэта ідэалягічны стрыжань, які трымае любую арганізацыю, у тым ліку й маладзёвую. Тое, за што можна змагацца самаахвярна да апошняга канца. Не зважаючы ні на якія пакуты, пераадольваць сябе, упарта йсьці й несьці ідэю, якая робіцца мэтай жыцьця. У "МФ" гэтая ідэя – Беларускае Адраджэньне.
Таму "МФ" змагаецца не за Пазьняка, не за кагосьці з кіраўніцтва "МФ" ці БНФ і тым больш не за кагосьці з вусамі ці акулярамі. Не дзеля таго, каб які-небудзь больш ці менш амбітны нацыяналіст ці дэмакрат дарваўся да ўлады. Але за белую, чыстую Ідэю, за Нашую Белрусь, за Вольную Беларусь, за Незалежную Беларусь, за абражаную і пакрыўджаную, але Ганарлівую Беларусь. Найперш за вынішчэньне з-пад сьвядомасьці шэрых масаў комплексаў недаробленасьці, неданацыянальнасьці, якія за двесьце год гвалтам былі ўбітыя большай часткі беларускага насельніцтва. За тое, каб урэшце рэшт Беларусь узьнялася з каленаў і магутная й велічная ўзьляцела па-над тленнымі турботамі гэтага сьвету.
І пакуль у "МФ" будзе панаваць менавіта вяршэнства Ідэі, арганізацыя будзе заставацца нязломнай, непераадольнай моцай – рухавіком маладога.

*Вадзім Канапацкі*

# Нацыяналізм альбо патрыятызм?

Гэткім чынам, нацыяналізм альбо патрыятызм? Не выпадкова трэба разводзіць і нават супроцьпастаўляць гэтыя паняцьці. Сёньня Беларусь абірае Свой шлях; ёсьць для яе толькі Адзіны, Адзіны сярод безьлічы сьцежак і гасьцінцаў, што вядуць да скону. Сёньня ня станем гутарыць аб камунізьме, рынкавым сацыялізьме, расейскім шавінізме. Народ наш ужо дастаткова разабраўся ў сапраўднай сутнасьці гэтых відавочна чужых і пагібельных для яго шляхоў. Сёньня істотна вызначыць: нацыяналізм альбо патрыятызм. Напэўна, дзіўна бачыць гэтыя словы супроцьпастаўленымі, бо сродкі масавае інфармацыі прызвычаілі нас да іхнай непадзяляльнасьці (нацыянал-патрыятызм). Чым жа ёсьць нацыяналізм? Гэта любоў да свае Нацыі, прызнаньне гэтае Нацыі найвышэйшай каштоўнасьцю, а ўсяго астатняга, у тым ліку й дзяржаву зь ейным палітычным і эканамічным ладам, — сродкамі для дасягненьня найвышэйшага творчага праяўленьня Нацыі. Нацыяналіст кажа: усё для Нацыі, нічога супроць Нацыі, Нацыя перадусім!

Патрыятызм – гэта любоў да Радзімы, а Радзіма – гэта ўжо паняцьце дзяржаўна-палітычнае. То бок патрыёт – гэта дзяржаўнік, што сьцьвярджае: усё для дзяржавы, нічога супроць дзяржавы, дзяржава перадусім. Патрыёт (дзяржаўнік) робіць найвышэйшай каштоўнасьцю дзяржаву, а ўсё астатняе, у тым ліку й нацыю, разглядае, як сродкі для ейнага пабудаваньня. Гэткім чынам, Нацыя, якая для Нацыяналіста ёсьць найвышэйшая каштоўнасьцю, для дзяржаўніка (патрыёта) пераўтвараецца ў сродак. Рэлігійная сьвядомасьць Нацыі, найвышэйшая форма духу Нацыі для патрыёта зьяўляецца ўсяго толькі адным прывадным пасам (мы кажам аб тых патрыётах-дзяржаўніках, для якіх хоць якое-кольвек значэньне маюць нацыянальныя традыцыі).

Але як беларускі Нацыяналіст можа быць патрыётам гэтае, калі можна гэтак выказацца, дзяржавы сёньня?

Кожны Беларускі чалавек сёньня ўжо ўсьведамляе ці здагадваецца, што на Беларусі ўсталявалася антынацыянальная дыктатура, якая ёсьць лягічным працягам 200-гадовае расейскае акупацыі. Сёньняшні рэжым першапачаткова быў пабудаваны для разгортваньня антыбеларускага тэрору, генацыду Беларусаў ды дыскрымінацыі тутэйшага этнасу.

Ці можа Беларус, Нацыяналіст быць патрыётам гэткае дзяржавы! Безумоўна, не! Але сёньня іншае дзяржавы, апроч існуючае антыбеларускае, не існуе. Значыцца, досыць балбатаць аб патрыятызьме; для Беларуса застаецца толькі Нацыяналізм!

# Яшчэ адзін вэктар?

Падчас свайго візыту ў Сэрбію беларускі прэзыдэнт А.Лукашэнка закамуфляванымі выслоўямі абмовіўся, што між ім і сэрбскім дыктатарам С.Мілошавічам зайшла гаворка аб пэрспэктыўным далучэньні Сэрбіі да расейска-беларускага Саюзу. Як гэта ні абсурдна гучыць, але "слова прэзыдэнта зь песьні ня выкінеш". Напэўна, двум праваслаўным дыктатарам-інтэгратарам-славянафілам надта ж карціць аб'яднаць свае намаганьні супраць так ненавіснага ім Захаду. І дробна думаюць тыя, хто зьвяртае ўвагу на, мякка кажучы, ня вельмі спрыяльнае геаграфічнае становішча краінаў – для нашага прэзыдэнта, мяркуецца, галоўным ёсьць улюбёны яму трыкалёр (варта перавярнуць сэрбскі сьцяг і… атрымаецца кропля ў кроплю расейскі штандар)! Палітычнага адзінадумства Лукашэнка й Мілошавіч ужо дасягнулі – на міжнароднай арэне дапаможныя патугі як першага, гэтак і другога час ад часу даюць свой плён – а вось з эканамічным адзінствам справа кепская. Хоць Рыгоравіч і разьлічвае на "павелічэньне тавараздвароту ў 10 разоў", сэрбам мы можам прапанаваць хіба нашыя спэцназаўскія шчыты. Але й тыя – карэйскае вытворчасьці. Дый сьмешна будуць выглядаць сэрбскія паліцыянты ў сваёй ярка-блакітнай форме з кавалкамі нашага зялёна-балотнага алюмінію. Зь іншага ж боку, у якасьці "братняе дапамогі" запросім 100-тысячную дэлегацыю бялградзскіх дэманстрантаў; тады ўжо нашаму прэзыдэнту ліха не мінуць… Карацей, аб'яднаемся зь Мілошавічам, а разьяднаемся з Дражкавічам. А пакуль што – няхай жыве беларуса-сэрбскі саюз!

# З "навінамі" - па свабоду

16-га студзеня сьвет убачыў першы нумар газэты "Навіны", якую распачаў выдаваць калектыў рэдакцыі забароненае 24-га лістапада мінулага году буйнейшае апазыцыйнае газэты "Свабода". Лягатып апошняе зьмешчаны побач з назовам новага выданьня. Дый, зрэшты, акрамя назову ў газэце нічога й не зьмянілася – рубрыкі, шрыфт, аўтары, рэгулярнасьць выхаду – тыя ж. У Менску набыць "Навіны" вельмі складана, але неўзабаве газэта мае распаўсюджвацца праз падпіску. Шчыра віншуем чытачоў колішняе "Свабоды", а рэдакцыі выданьня зычым плённых посьпехаў на інфармацыйнай ніве.

# І касьцёл русіфікуецца ...

Як зь відавочным расчуленьнем паведаміла Беларускае Радыё, у Гародні "по просьбам трудящихся" набажэнствы ў адным з рыма-каталіцкіх касьцёлаў былі пераведзеныя на расейскую мову. І гэта – нягледзячы на колішнюю заяву кардынала Казімера Сьвёнтака, што, не зважаючы на вялікі г.зв. плебісцыту'95, мова ў касьцёлах застанецца беларуская.

***Палітычная кроніка***

# Каваль — у Чэхію

Лік палітычных эмігрантаў павялічваецца. У пачатку сьнежня палітычнага прытулку ў Чэхіі папрасіў Алесь Каваль. Зараз ён знаходзіцца ў лягеры для перамешчаных асобаў ля Прагі. Прайшоўшы тры тыдні каранціну, Алесь чакае на разгляд свае справы, які можа доўжыцца да 3-ох месяцаў. Пэўна, дэпартацыя яму не пагражае, й сп.Каваль атрымае від на жыхарства.

# Уласная сацыялёгія

Няма таямніцы, што вынікі сацыялягічных апытаньняў прэзыдэнцкіх агенцтваў, збольшага сфальшаваныя. Таму сп.Ю.Хадыка прапанаваў правесьці ўласнае сацыялягічнае апытаньне сярод звычайных жыхароў менскіх раёнаў (а ў будучыні – і ва ўсёй рэспубліцы), каб высьвятліць сапраўдныя настроі насельніцтва. Думка абмяркоўваецца й апрацоўваецца ў фронтаўскіх асяродках.

У канцы 1997 году Віцебская раённая арганізацыя Партыі Камуністаў Беларускае выключыла з сваіх шэрагаў вядомага былога капітана ВМФ тав.В.Шчукіна за ягоныя ўдзелы ў апазыцыйных акцыях побач з нацыяналістамі ды лібэраламі. Ведаючы афіцыйную антыпрэзыдэнцкую пазыцыю кіраўніцтва ПКБ, становіцца дзіўна ад гэтага кроку. Але зьдзіўленьне адразу ж зьнікае, калі даведваесься, што ў Віцебскай арганізацыі заселі суцэльна лукашысты. Першы сакратар ЦК ПКБ тав.С.-Калякін вельмі ўзрушаны выключэньнем Шчукіна й маецца аспрэчваць рашэньне. Паводле інфармацыі з дасьведчанае крыніцы, таварыш Шчукін застаецца верны сваім ідэям і пераходзіць у іншую партыю не зьбіраецца.

Больш за год цягнуўся разгляд справы беларускага палітэмігранта Янкі Чурыловіча ў Польшчы, дзе ён знаходзіўся на працягу гэтага часу. Колішні журналіст берасьцейскае апазыцыйнае газэты "Шлях", ён нарэшце атрымаў палітычны прытулак у гэтай краіне. Знаходзячыся ў суседняй дзяржаве, сп.Янка часу дарма не марнаваў – пры ягоным актыўным удзеле ў Варшаве былі арганізаваныя некалькі пікетаваньняў у падтрымку беларускае дэмакратыі. Нагадаем, што падчас рэфэрэндуму-96 менавіта сп.Чурыловіч разам з украінскімі назіральнікамі выкрыў сто схаваных пад абрус незапоўненых бюлетэняў у Берасьці й быў за гэта жорстка зьбіты; на ягонае затрыманьне нават выяжджаў зьвяз амапаўцаў пад кіраўніцтвам Кучынскага. Гэтак што ягоная эміграцыя зусім лягічная.

Малады Фронт ужо мае прадстаўнікоў у некалькі эўрапейскіх краінах (напрыклад, у Гэльсынкі эмігрантка Аліна Бельская). Нядаўна прадстаўнік арганізацыі зьявіўся ў Капэнгагене. Ім стала спн.В.Адамава, што вучыцца ў сталіцы Даніі.

**Нягледзячы на "скрушліва"-замілаваныя спачуваньні наконт сканаваньня басконскага руху, змаганьне за волю Басконіі не спыняецца не на хвіліну.**

# НОВАЯ СЬПІРАЛЬ БАРАЦЬБЫ

*Лёлік Ушкін*

У свой час, у 1972 годзе, фашыстоўскі дыктатар Франко абвясьціў "басконскіх сэпаратыстаў" крыніцай асноўнае пагрозы для гішпанскае дзяржавы. Скажам шчыра, што для заяваў гэткага кшталту ў дыктатара былі ўсе падставы: літаральна напярэдадні баевікі басконскае марксісцкае арганізацыі ЭТА падарвалі броніраваны мэрсэдэс аднога адмірала (вядома, разам зь ім самім). Апошняга, дарэчы, Франко меркаваў зрабіць сваім спадкаемцам.

Фашыстоўская дыктатура ў Гішпаніі зьнікла ў канцы 70-ых гадоў; але выказваньні генэрала не адыйшлі ў нябыт. Наадварот, як паказваюць апошнія падзеі ў Гішпаніі, фармулёўкі дыктатара сталіся нязьменнымі прынцыпамі палітыкі Мадрыда ў адносінах да баскаў, і перш за ўсё – да басконскіх радыкальных арганізацыяў "Херы Батасуна" (ХБ) і "Свабода й Басконія" (ЕТА).

Значная частка беларусаў часьцяком схільная лічыць, што рэпрэсіўная палітыка прэзыдэнта Лукашэнкі супроць беларускае апазыцыі зьяўляецца нечым новым, арыгінальным. Насамрэч наш прэзыдэнт – варты жалю плягіятар! Усё, што адбываецца на Беларусі сёньня – арышты, штрафы й г.д. – даўно ўжо апрабаванае гішпанскімі кансэрватарамі, што прыйшлі да ўлады ў сярэдзіне 90-ых гадоў. Гэтак, яшчэ ў 1996 годзе ўсе лідары "ХБ" былі арыштаваныя паводле беспадстаўнага абвінавачваньня ў "сувязях з тэрарыстамі". Актывістам "ХБ" далі тэрмін з адтэрміноўкай "да першага затрыманьня". Пазнаяце почырк?

У пачатку 1997 году ў вязьніцах Гішпаніі пракацілася хваля загадкавых самагубстваў зьняволеных – сябраў ЭТА. Контаратака баскаў – выкраданьне й забойства дзяржаўнага службоўцы М.Блянко – сталася для Мадрыда сыгналам для пачатку маштабных рэпрэсіяў. На працягу 48-мі гадзінаў на тэлевізіі йшлі бясконцыя трансьляцыі аб зьверствах ЭТА, уведзеныя дадатковыя вайсковыя часткі...

Кульмінацыяй кампаніі стаўся судовы працэс над 23-ыма лідарамі "ХБ", якіх усіх да аднога прымовілі да значных тэрмінаў зьняволеньня. Здавалася, што басконскі фронт за незалежнасьць зруйнаваны, а апошнія рэлікты супраціву ў асобе ЭТА асуджаныя на самавыміраньне. Але...

Але сьнежань'1997 радыкальна зьмяніў сытуацыю. Актывісты ЭТА арганізавалі шэраг акцыяў супроць прадстаўнікоў кіраўнічае партыі й вымушалі грамадзкасьць зьмяніць сваю думку наконт "раптоўнае сьмерці" басконскага руху. Адурэлыя ад нечаканасьці й дзёрзкасьці атакаў баевікоў ЭТА ўрад зусім згубіў кантроль над сытуацыяй і стаў чыніць нейкую суцэльную бязглузьдзіцу. Напрыклад, 166-ці муніцыпальным саветнікам былі выдзеленыя 256 целаахоўнікаў, у Басконію ўведзеныя 15 тысячаў паліцыянтаў і 3 тысячы цывільных гвардзейцаў...

Можна здагадацца, што мерапрыемствы Мадрыда не былі вартыя й выедзенага яйка: 8-ага студзеня'98 у горадзе Зараўза быў ажыцьцёўлены замах на лякальнага "кансэрватара", адказнасьць за які ўзялі на сябе баевікі ЭТА. Акцыя ў Зараўзе выклікала выбух шаленства ва ўрадзе. Прэм'ер-міністар Гішпаніі Хасэ Азнар у прыступе разьюшанасьці заклікаў гішпанцаў стварыць грамадзкі фронт супроць басконскага тэратызму. На экранах гішпанскае тэлевізіі зноўку замільгацелі сотні новых "Рэзанансаў" ды "Дзяцей хлусьні"...

Між тым, відавочна, што апошняе слова ў супроцьстаяньні Мадрыд – ЭТА яшчэ далёка не сказанае. Барацьба працягваецца!

# ЛЕТУВА

*(Летувіская Рэспубліка)*

У гэтай краіне 4 студзеня ў другім туры прэзыдэнцкіх выбараў перамог Вальдас Адамкус. Ён абышоў свайго суперніка, былога пракурора Рэспублікі, якога падтрымліваў цяперашні прэзыдэнт Летувы Альгірдас Бразаўскас, Артураса Паўлаўскаса, на некалькі тысячаў галасоў. Вальдас Адамкус зьяўляецца найстарэйшым прэзыдэнтам у Эўропе (яму 71 год), у 1944г. эміграваў у ЗША, дзе пазьней працаваў у Дзяржэпартамэнце. Займаючы пасаду міністра экалёгіі, меў магчымасьць наведваць Бацькаўшчыну ў якасьці грамадзяніна ЗША й дзяржаўнага службоўцы гэтае краіны. Доўгі час Цэнтарвыканкам Летувы адмаўляў Адамкусу ў рэгістрацыі, спасылаючыся на 78-ы артыкул Канстытуцыі гэтае краіны, згодна зь якім балятавацца можна толькі чалавек, які пражыў у Летуве больш за 3 гады. Атрымаўшы перамогу на выбарах, Вальдас Адамкус адзначыў, што запачаткаванага прэзыдэнтам Бразаўскам курсу на уваходжаньне Летувы ў НАТО й інтэграцыю ў Эўрапейскую супольнасьць ён ня зьменіць. У той жа час ён заявіў, што ў бліжэйшым часе ён адмовіцца ад амэрыканскага грамадзянства й будзе працаваць толькі дзеля Летувы. У гутарцы з карэспандэнтамі сп. Адамкус сказаў, што ягоным жыцьцёвым прынцыпам зьяўляецца не служэньне чалавека дзяржаве, а дзяржавы чалавеку.

На прэзыдэнцкіх выбарах В.Адамкуса падтрымліваў старшыня летувіскага парлямэнту й Кансэрватыўнае партыі Летувы, былога "Саюдзісу", Вітаўтас Ляндзбэргіс. Сэнсацыяй можна назваць тое, што ўпершыню на постсавецкай прасторы прэзыдэнтам стаў эмігрант. Тлумачэньне гэтаму даюць сацыялягічныя апытаньні сярод летувісаў, паводле якіх насельніцтва Летувы лічыць, што прэзыдэнтам мусіць быць дэмакрат, а лепшага, чым выхадзец з дэмакратычнае Амэрыкі, не знайсьці Такім чынам, Літва, абраўшы прэзыдэнтам Адамкуса, ўваходзіць на якасна новы этап свайго гістарычнага разьвіцьця, калі лідэрам дзяржавы стаў чалавек, незаплямлены ані ў г.зв. "нацыяналізьме", ані ў сувязях з Кампартыяй. Пажадаем летувісцкаму народу, каб ён увайшоў у XXI стагодздьдзе як паўнавартасная эўрапейская нацыя, а беларусам Віленшчыны – прыязнага стаўленьня новага ўраду суседняе краіны да іхных нацыянальных правоў і запатрабаваньняў.

# БАТАЛЬЁН УНСО

Нікога ўжо ня зьдзівіш тым, што сябры ваяўнічае ўкраінскае нацыяналістычнае арганізацыі УНА-УНСО змагаліся ў розных "гарачых" кропках СНД. У тым ліку й у Ічкерыі, куды на іхную думку ў дадзены момант сягаюць нацыянальныя ўкраінскія інтарэсы. Нядаўна стала вядома, што ў Чачэніі (дзе УНСОўцы праходзяць вайсковую падрыхтоўку пры штабе войска генэрала Дудаева, які ўзначальвае брыгадны генэрал Салман Радуеў) у хуткім часе будзе сфармаваны адмысловы ўкраінскі батальён колькасьцю да 500 ваяроў.

# ХАРТЫЯ ЗША-БАЛТЫЯ

17 студзеня ў Вашынгтоне была падпісаная Хартыя аб узаемным супрацоўніцтве паміж ЗША й краінамі Балтыі: Эстоніяй, Лацьвіяй і Летувой). Дзяржавы Балтыі ўскладаюць на гэтае падпісаньне вялікія надзеі ў пляне іхнага ўступу ў NATO. Але, паводле словаў амэрыканскага боку, ніякіх стоадсоткавых гарантыяў гэта не дае. Тым ня менш прэзыдэнт ЗША Б.Клінтан адзначыў, што ўжо бачыць балтыйскія краіны неад'емнымі часткамі Эўропы.

# БЕЛАРУСЬ ПАРТЫЗАНСКАЯ

Горад Пружаны Берасьцейскае вобласьці мае ўсяго крыху больш за 25 тысячаў чалавек насельніцтва. Тым ня менш улетку 1997-га году ўся тамтэйшая міліцыя пэўны час працавала ва ўзмоцненым рэжыме (зараз гэта вядома ўжо дакладана). А прычынай гэтага сталіся падзеі, якія дагэтуль былі вядомыя толькі вузкаму колу жыхароў гораду. Гэткім чынам, апісаньне ніжэйзгаданых падзеяў для шмат каго будзе зьдзіўляльным адкрыцьцём, але ўсе факты тут – рэальныя.

Першыя пробліскі адчуваньня нейкага незразумелага для іх няспыннага рушаньня пружанскія ўлады пачалі выяўляць у другой палове чэрвеня, калі зь некаторых кропак у цэнтры гораду раптоўна зьніклі дзяржаўныя сьцягі. Рэакцыяй на гэта сталася павелічэньне начных нарадаў міліцыянтаў. Прычым, калі ў адным пункце сьцяг быў прымацаваны наверсе жалезнае брамы аднае фабрыкі побач зь зьзяючым ліхтаром, невядомыя, перш чым залезьці й сарваць штандар, каменем разьбілі ліхтар. Гэта было гэткай нечаканасьцю для вартаўніка, які ў сваёй будцы знаходзіўся літаральна ў двух кроках ад брамы, што невядомыя патрыёты зь імклівасьцю пантэры зьніклі з здабычай. Выкліканыя ж вартаўніком міліцыянты прыбеглі толькі празь некалькі хвілінаў, хоць апорны пункт быў за сотню мэтраў ад месца здарэньня.

Але гэта было толькі нагнятаючай атмасфэру прэлюдыяй да кульмінацыі летняга пружанскага змаганьня.

У ноч зь першага на другога ліпеня тымі ж невядомымі быў размаляваны помнік Леніну перад гарвыканкамам на цэнтральным пляцу гораду (вядома ж, ня лёзунгамі кшталту "Міру – мір"), разарваны й часткова спалены дзяржаўны сьцяг (на тым жа пляцу!), рэшткі якога былі кінутыя пад дзьверы гарвыканкаму. І, ўрэшце, кідкамі каменьня былі выбітыя некалькі ваконных шыбаў на першым паверху тае ж установы. Да таго ж увесь горад быў расьпісаны антырэжымнымі лёзунгамі.

У параўнальных маштабах для правінцыйнага гарадку гэта было раўназначна выбуху бомбы ў Менску перад вядомым будынкам на К.Маркса, 38.

Расьледам "тэракту" заняўся КДБ, але безвынікова. Нічога ня высьветліўшы, памагатыя рэжыму не знайшлі нічога лепшага, як усяго толькі ўзмацніць ахову гарвыканкаму на некалькі міліцыянтаў пры адным вартавым дагэтуль. Забягаючы наперад, зазначу, што прынятая мера мэты не дасягнула – патрыёты мянтоў не палохаюцца.

Праз месяц маланка вызвольнага руху блiснула яшчэ раз – у гарадзкім пасёлку Ружаны, што за 45 кілямэтраў ад Пружанаў гэтаксама на цэнтральным пляцу нечымі трапнымі высілкамі ўначы помнік Леніну быў пазбаўлены правае рукі, якая вяла ў твань "сьветлае будучыні".

Па некаторым часе, калі каламуць ад розгаласу сьціхла, некалькі разоў былі паўтораныя рэйды пружанскіх нацыяналістаў з паўсюднымі надпісамі й насамрэч бязлітасным біцьцём вокнаў у будынку гарвыканкаму. Апошні, дарэчы, вось ужо тры гады нахабна адмаўляе раённай арганізацыі БНФ у ладжаньні амаль усіх іхных акцыяў.

Аб пэрыядычным начным вывешваньні нацыянальных штандараў у самых бачных пунктах гораду ўжо няма чаго й казаць – зьява агульнабеларуская. А вось аб дзённай адкрытай барацьбе супроць маладых антыбеларусаў-лукашыстаў некалькі словаў згадаць трэба. Больш за дваццаць пераросткаўвычва- рэнцаў прамаскоўскіх поглядаў былі зьбітыя "злобнымі беларускімі нацыяналістымі" на працягу восені'97. Тамтэйшыя бэпээсмаўцы ходзяць перапалоханыя ды затузаныя – нават створаны "для аховы парадку" маладзёвы атрад "Беркут" не дапамагае.

А маладыя нацыяналісты часу марна не губляюць: у лістападзе-сьнежні хол злашчаснага гарвыканкаму пабачыў (і галоўнае, пачуў!) яшчэ некалькі кінутых туды ўначы "падарункаў ад шчырага сэрца" – саматужна вырабленых выбухпакетаў ды палаючых чырвона-зялёных сьцягоў.

Вельмі адметна тое, што насьценныя надпісы ў Пружанах выдаюцца сваім непрыхаваным нацыянал-радыкалізмам. С платоў і сьценаў на абывацеляў глядзяць нацыяналістычныя лёзунгі "Сьмерць акупантам!", "Далоў маскалёў!", "Халуёў да сьценкі!", "Расейскіх сьвіньняў — у расейскі бруд!" ды безьліч іншых сапраўдных шэдэўраў вулічных графіці. Шкада толькі, што жыхароў гораду пазбаўляюць непаўторнае магчымасьці любавацца шчырымі праявамі нацыяналізму – пэрыядычна ўлады зафарбоўваюць надпісы.

Мажліва, адной з прычынаў раптоўнага ўзмацненьня палітычнае актыўнасьці ў Пружанах зьяўляецца акт вандалізму, без сумневу, санкцыянаваны ўладамі – у чэрвені мінулага года нейкі снайпэр-шрубалётчык расстраляў помнік саракам загінуўшым паўстанцам 1863-га году, што ўзьведзены на ўскрайку Ружанскае пушчы ў зоне вайсковага палігону. Гарматная чарга прайшлася акурат па дыяганалі пастамэнту. Абэліск практычна нельга аднавіць.

Тым часам пазбаўленыя кемлівасьці й жвавасьці пружанскія чэкісты ніяк ня могуць выслужыцца – "тэрарыстычная групоўка" дзеяла, дзеіць і маецца дзеіць надалей.

Нацыя пакрысе абуджаецца ад летаргіі. У ейнай памяці паволі ўзнаўляюцца гераічныя ўрыўкі збройнага змаганьня продкаў. Калі начны горад скалынаецца ад выбухаў, а паслугачы хунты трасуцца, нібы асінавае лісьце, — рэйкавая вайна недалёка. Вызваленьне не прыходзіць з змакрэлых "кватэраў паседжаньняў "Вярхоўнага Савету" альбо з утульных, з усімі зручнасьцямі,



канфэрэнц-заляў чальцоў NATO ці Эўрасаюзу. Яно не ўзьнікае зьнянацку на памяркоўных мітынгах "аб'яднанае апазыцыі". Вызваленьне нараджаецца зь Дзеяньня. Зь Дзеяньня Нацыі.

*Аляксей Баранчык*



# ПА ТОЙ БОК РОК-КАРАНАЦЫІ

*Арыя Гатальская*

Вось мы й маем новых рок-каранаваных асобаў. За заслугі ў галіне рок-музыкі за 1997 год было раздадзена 10 намінацыяў. Не ўсе яны былі відавочна заслужаныя, але пэўная аб'ектыўнасьць у раздачы "сланоў" усё ж была.

Сёлетнюю каранацыю чакалі зь лёгкім мандражам. І ня толькі таму, што цікава было даведацца, хто ж самы-самы, але прысутнічаў пэўны страх, што рок-каранацыя можа ператварыцца ў нешта іншае. Падставы для хваляваньняў былі. Два гады таму каранацыя мела відавочна стрыптызны ўхіл: пад сцэнай выкручваліся зусім ня ў стыль мадэлькі ў купальніках. Мінулы год меў усе прыкметы пампэзнага шоў, але накіраванасьці рэклямна-моднае: па сцэне дыфілявалі калекцыі мадэляў адзеньня. Так што чакаць прыходзілася на што заўгодна.

Шматабяцальна каштавалі квіткі на імпрэзу - 250 тысячаў. Запрашальнікаў раздавалася мала. Музыкі нават не атрымалі іх на тое, каб прывесьці сяброўку ці жонку. А арганізатары скардзіліся што й так "прапалі" 90 месцаў, каб усадзіць усіх удзельнікаў каранацыі. Калі б праходзіў канцэрт у спэцыялізаванай зале, то арганізатары ўмудрыліся б разьмеркаваць музыкаў па грымэрках, а так ва ўмовах кінатэатру "Масква" куды ж іх дзенеш? Але да гонару акцыі, заля была поўнаю, што сьведчыць не толькі пра цікаўнасьць публікі да року, але пра шырокамаштабную рэклямную кампанію. Праводзілася яна не заўжды вялікімі затратамі. Да прыкладу, хочаш, журналіст, патрапіць на канцэрт, прынясі й пакажы арганізатарам газэту, у якой ты даў анонс падзеі. Гэта прынцып работы з журналістамі адзінага безканкурэнтнага арганізатара такіх імпрэзаў "Клас-клуба". Паспрабуй потым напісаць нехвалебны артыкул ды без камплімэнтаў арганізатарам - не дапаможа потым і анонс. Таму здагадайцеся самі, чаму прэса ў асноўным апладзіравала падзеі.

На гэты раз было вырашана адмовіцца ад прафэсійных вядучых на карысьць модных, але не заўжды тактоўных і сьціплых дзі-джэяў з радыё "Бі-Эй". Зьлёгку хаміць - гэта бон-тон дзі-джэяў. Праўда, каранацыя ад гэтага набывала празлад бытавы неўрачыстыя стыль. Так што й задумаесься, можа лепей было тое мінулагоднае дыфіле, бо ўрачыстасьць усё ж адчувалася. Жаданьне вядучых самавыявіцца й ня даць зрабіць гэта іншым ды непамернае перапаўненьне праграмы ператварыла чаканьне на прыемны момант абвяшчэньня караля ў змаганьне з жаданьнем сыйсьці. І адказнасьць тут цалкам на арганізатарах.

Жаданьне падняць рэйтынг цырымоніі і падказала арганізатарам заінтрыгаваць гледача узьядканьнем слыннае "Бонды" й таямнічымі "спэцыяльнымі" гасьцямі з Расеі. А ўрэшце госьцяю апынулася нейкая поп-сьпявачка Сабіра Іліева, якая сваім сьпевам выклікала масавы сыход публікі з залі. Без перабольшаньня, "сьпявачка напоўніла голасам залю й выцясьніла ім публіку". А легендзе беларускага року не далі прасьпяваць калісьці забароненую "за нацыяналізм" песьню "Прыйдзе іх дзень". Нейкі стары бюракрат выскачыў пад сцэну й заверашчаў, што час канцэрта ўжо скончаны. Прыйшлося падпарадкавацца.

Адлажанасьці ў праграме не было, як урэшце і ў гуку, які зьявіўся толькі бліжэй да канца. Але горш за ўсё, што й самі музыкі не заўжды былі добразычлівыя адзін да аднаго. Мінулагодні рок(?!) -кароль гурт "Ляпіс Трубяцкой" спачатку бы - самапрыніжана сказаў, што незаслужана насіў "гэтую шапку" цэлы год, а потым прасьпяваў сабе гімн хвалы, у якія акрамя расхвальваньня сябе, як самага крутога гурта, быў рэфрэн абсалютна непрыстойнага зьместу. Па ўсім было відаць, што "Ляпісы" лічаць сябе самымі-самымі й аддаюць карону з хвігай у кішэні:" усё адно мы лепей!" Дадатковым доказам было тое, што "Ляпісы" не аддалі рок-карону ўласнаручна, як усе прывыклі, сёлетняму каралю - гурту "НРМ". Праўду кажучы, насілі яны рок-карону не зусім заслужана. Так, папулярныя й гучныя, але ж ня рок!

Сваю карону "НРМ" атрымалі заслужана, як ніхто. Гурт нават падкарэктаваў сцэнічны імідж, апрынуўшы гарнітуры - музыкі зьяўляюцца міністрамі краіны! Адно, не далі каранаваным прагучаць, хоць публіка таго настойліва патрабавала. Непрыгожа было і тое, што супернікі "НРМ" па намінацыі "Нэйра Дзюбэль" паказалі сябе ня лепшым чынам: пераможца яшчэ ня быў абвешчаны, а вакаліст "дзюбэлей" пакрыўджана паведаміў, што яны ўжо ведаюць, хто будзе пераможцам. "Але мы ўсё роўна здабудзем рок-карону!" - усё тым жа крыўдлівым голасам - "а мы круцей". Непрыгожа так. Вучыцеся радавацца за сяброў.Тым больш, калі арганізатары пастараліся ўсім нешта даць ці прадставіць магчымасьць паказацьсябе, калі не намінантам, то пачэсным госьцем.

“За вушы” прыцягнулі й намінацыі “Песьня году” і “Надзея году”. У першую патрапілі “Я знаю любовь” (“Новы Ерусалім”) і “Танец” (“Пані Хіда”). Відавочна, вырашыла ўсё «кампеэтэнтнае журы», а не анкеты, што запаўнялі журналісты, ня тое, колькі песьня пратрымалася ў гіт-парадзе “Музычная абойма”. Калі б прафэсійны падыход нешта аначаў для вызначэньня песьні-пераможцы, ёю стала б “Одзірыдзідзіна” (“НРМ”), якая пратрымалася рэкордную колькасьць тыдняў. Што датычыць «Надзеі» (дэбютантаў), то «тёмна вода в облацех» як нельга лепей вызначае крытэр адбору. Публіка зьдзіўлена пераглядвалася ад імёнаў «Хэп Фэйс» і «Санк Ю Джызэс»: сапраўды дэбют, бо пачутыя былі ўпершыню.

Няма асаблівых пярэчаньняў наконт «Выдыёкліпу году». Рэжысэр «Сьлёз на соснах» гурта «Пані Хіда» мінімумам сродкаў стварыў вельмі неблагі кліп. Бясспрэчна, заслужыў званьне «Альбому году» «Народны альбом» - сэйшан-праект беларускіх гуртоў. Аўтар канцэпцыі гэтага ўнікальнага праекту Міхал Анемпадыстаў атрымаў званьне лепшага тэкставіка двойчы заслужана. Зь невялікай нацяжкай «Падзеяй года» прызнаны альбом рэміксаў песьняў «Песьняроў» «Пєсьнярок», які склалі розныя выканаўцы. Нацяжка атрымалася таму, што не было канкурэнта: «Народны альбом» пайшоў у іншую намінацыю. Не было надуманасьці ў намінацыі «Адкрыцьцё году»: «WooDoo» з Гомлі дастаткова папрацавалі дзеля гэтага. Прыемна, што тых, хто не ўвайшоў у намінацыі, запрасілі пачэснымі гасьцямі: «Тройца», «Стокс», Кася Камоцкая, «Палац», «Уліс». Апошні гурт настолькі нетусовачна самадастатковы (як ягоны лідар Вячаслаў Корань) што, напэўна, няхутка трапіць у якуюнебудзь катэгорыю. Таму статус гасьцей зацьверджаны вельмі своечасова.

Такія вось відавочныя й тайныя шляхі вялі да нядаўняй рок-каранацыі, у выніку якое мы маем рок-каралямі «Незалежную Рэспубліку Мроя», адзначаную да таго ж «Дайновай» за вялікі ўнёсак у беларускую культуру. А што да самое акцыі, то ня гледзячы ні на што, заўжды будзе каму пахваліць і каму пасварыцца на арганізацыю, бо робіцца яна з пэрспэктывай «на вырост». Ды шоў мусіць працягвацца, мяняючы формы й якасьці. І каб не было безальтэрнатыўных спрэчных намінацыяў, прыйдзецца папрацаваць перш за ўсё музыкам: а каго ж выбіраць, калі на Беларусі засталося з паўтара дзесяткі актыўна працуючых камандаў. А гэта азначае, што калі камусьці карцяць лаўры рок-караля, перш за ўсё паспрабуйце зьлезьці з канапы.

# ГВАЛТ З КАНСТЫТУЦЫІ

Як вядома, Закон у Беларусі ня дзейнічае. Але гэта толькі адзін бок справы – фактычны; зь юрыдычнага ж пункту гледжаньня Закон ёсьць, ягонае дзеяньне на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ніхто не спыняў. У гэтым матар'яле я хацеў бы разгледзець некаторыя артыкулы Канстытуцыі нашае дзяржавы, й наглядна паказаць, як яны "выконваюцца" й "шануюцца".

"Мы, народ Рэспублікі Беларусь, зыходзячы з адказнасьці за цяперашні стан і будучыню Беларусі, усьведамляючы сябе паўнапраўным суб'ектам сусьветнае супольнасьці й пацьвярджаючы сваю прыхільнасьць да агульначалавечых каштоўнасьцяў, грунтуючыся на сваім неад'емным праве на самавызначэньне, абапіраючыся на шматвяковую гісторыю разьвіцьця беларускае дзяржаўнасьці [...] прымаем гэтую Канстытуцыю – Асноўны Закон Рэспублікі Беларусь".

Прэзыдэнт фактычна сказаў сваё чэснае "Не!" гэтым сьцьверджаньням. Па-першае, ён паставіў пад сумненьне пункт, у якім гаворыцца, што Беларусь - "паўнапраўны суб'ект сусьветнае супольнасьці " , стварыўшы г. зв. Саюз Беларусі й Расеі (які, на ягоную думку, выратуе нас ад усіх няшчасьцяў). Ягонае ж выказваньне наконт краіны, якой ён кіруе , як пра "пройдзены этап" не стасуецца ні з чым. У вадначасьсе гр.Лукашэнка зьляпіў такі ляпсус, дзякуючы якому ён можа праслявіцца "найчэсьнейшым патрыётам" і "славянафілам", бо нават тав. Зюганаў ня здолее вымавіць найінтэрнацыянальныя словы кшталту: "Россия – это пройденный этап". А Вы — сьмелы й мужны, Вы перамаглі комплекс "беларуса"й узвысіліся да вышыняў супэркасмапаліта й супэрславяніна.

"Мы, народ Рэспублікі Беларусь (Беларусі), пацьвярджаючы сваю прыхільнасьць да агульначалавечых каштоўнасьцяў..."

Кату пад хвост, даруйце за выраз, Вашыя "прыхільнасьці", шаноўныя людзі Беларусі. "За цывілізаваным сьветам мы ня пойдзем!" Таму, таварышы, пакуль розныя там "цывілізаваныя" мэсье, містэры й "господа" будуць адпачываць на Канарах ды лётаць на Марс (да прыкладу), беларусы паступова дасягнуць найвышэйшае ступені рынкавага сацыялізму – вернуцца ў сьветлае ўчора, у бясклясавае грамадзтва, у пячоры – гэта ў горшым выпадку; у лепшым выпадку на нас чакаюць "вялікія перамены": ператварэньне Беларусі ў Газпрамаўскае вакно ў Эўропу, а, дакладней, у калёнію й "зону стратэгічных інтарэсаў Расейскае Фэдэрацыі". Пра канстытуцыйнае "самавызначэньне й шматвяковую гісторыю разьвіцьця беларускае дзяржаўнасьці" сказана й напісана шмат, але досыць аднога выступу прэзыдэнта, каб закрэсьліць нават бясспрэчныя факты пра йснаваньне на беларускіх землях дзяржаваў у Сярэднявеччы, бо ж "беларускі народ атрымаў сваю дзяржаўнасьць у 1919 годзе" з рук нашых добразычліўцаў – расейскіх бальшавікоў. Чым быў насамрэч "сувэрэнітэт" Савецкае Беларусі мы абазнаныя й толькі шалёны сталініст ці лукашыст можа марыць пра 1937 год і Курапаты, разам зь якімі Беларусі былі нанесеныя раны, якія яна залечвае па сёньняшні дзень.

**Арт. 16, ч.1:** "Усе рэлігіі й веравызнаньні роўныя перад законам. Наданьне якіх-небудзь перавагаў або абмежаваньняў аднoй рэлігіі або веравызнаньню ў адносінах да іншых не дапускаецца."

Толькі сьляпы ня ўбачыць, як мітрапаліт Філярэт дабраслаўляе нашага "тату" на "подзьвігі". Амаль як у дарэвалюцыйнай Расеі – патрыярх дабраслаўляе цара на паход супроць іншаверцаў, паганых ліцьвінаў альбо татараў. У імя чаго? У імя "сьвятое справы", гэтак званае гістарычнае місіі – злучэньня ўсіх славянаў у адной дзяржаве, што трэба разумець як: "славянские ручьи сольются в русском море", і ня вельмі йстотна, што татары ці бураты не славяне: ад гэтага ёсьць сродак – асыміляцыя.

У сувязі з гэтым заўважу, што ў адпаведнасьці з тым жа арт. 16 ч.2 "забараняецца дзейнасьць канфэсійных арганізацыяў, якая накіраваная супроць сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь [...] ці зьвязаная з парушэньнем правоў і свабодаў грамадзянаў".

Праваслаўную царкву не забароніш, дый ейная забарона раўназначная зьдзеку з саміх сябе й з народу Беларусі, але Вам, высокапрасьвяшчэнства мітрапаліт Філярэт, мусіць быць сорамна перад абліччам усёдаравальнага Госпада Бога за Вашыя высілкі на духоўным напрамку дзеля "інтэграцыі"Беларусі ў "рускае море"; грэх учыняць гвалт з краіны, зь ейнага несьвядомага народу, гэтаксама як грэх дурыць ды абкручваць несьвядомае малое дзіця. Калі прыглядзецца да Вашых дзеяньняў , дык напрошваецца пытаньне: а ці не злоўжываеце Вы сваім службовым становішчам?

*Працяг на старонцы 8.*

*Праця́г са старонцы 7.*

Уявеце, што вы жывяце ў Рэспубліцы Беларусь – унітарнай дэмакратычнай сацыяльнай прававай дзяржаве, дзе кіруе законапаслухмяны Прэзыдэнт Лукашэнка. Цяжка ўявіць, але каб такое было насамрэч, дык наступныя выбары адбыліся б у прамежку паміж ліпенем і верасьнем 1999 году. Калі б мы жылі паводле Закону, дык Аляксандра Рыгоравіча маглі б абраць, прыпусьцім, на другі тэрмін – да 2004 году. Але, на жаль, Беларусь паціху забывае, што ў яе ёсьць Закон, і жыве паводле навязанага ёй гвалтам Асноўнага Дэкрэту. Артыкул 144 Дэкрэту гаворыць, што "Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь захоўвае свае паўнамоцтвы. Тэрмін ягоных паўнамоцтваў лічыцца з дня ўступлення ў сілу гэтае Канстытуцыі" (то бок Асноўнага Дэкрэту). Лічым: 1994+2=1996 – 2 гады кіраваньня краінай у якасьці Прэзыдэнта, паўнамоцтвы якога насамрэч пачынаюцца з 24 лістапада 1996 году (кім жа лічыць гр.Лукашэнку ў пэрыяд з 1994 па 1996 год?), 1996+5 (5 год – тэрмін паўнамоцтваў прэзыдэнта)=2001 год – першы дэкрэтаўскі тэрмін паўнамоцтваў. Беручы пад увагу "кішэннасьць" нашае выбарчае сыстэмы, дадамо яшчэ 5 гадоў і атрымаем 2006 год – менавіта тады ён можа пакінуць гэтую пасаду, а ў выніку пракіраваць краінай, як і абяцаў, 12 гадоў. Калі ў бліжэйшы час Вярхоўны Савет не прызнае сябе адзіным легітымным заканадаўчым органам у Рэспубліцы Беларусь, дык разьвіцьцё падзеяў менавіта па гэтай сьпіралі – цалкам верагоднае.

У рэшце рэшт, ніхто ня ведае, што будзе заўтра, бо можа здарыцца так, што й без асаблівых высілкаў Беларусь пазбавіцца ад дыктатара. Прынамсі, ніхто не застрахаваны ад нечаканасьцяў. Нам жа застаецца верыць у лепшае, змагацца за Беларусь і ейнае Адраджэньне, й у любой сытуацыі заставацца аптымістамі.




# БЕЛАРУСЬ МАІМІ ВАЧЫМА

ТБМ імя Францішка Скарыны сумесна з Фондам садзеяньня асьветніцкае дзейнасьці ладзіць конкурс на лепшы верш альбо твор.

Ініцыятыва, што сыходзіла зь нетраў Каліноўскае Рады Маладога Фронту, незаўважанай не засталася й з дапамогай вышэйзгаданых арганізацыяў набыла агульнабеларускія маштабы. Пра гэты конкурс ужо ведаюць ледзь ня ў кожнай беларускай школцы. На адрэсу абанэнцкае скрыні конкурсу амаль штодзень прыходзяць лісты зь вершамі, творамі й шчырымі, цёплымі словамі падзякі арганізатарам гэтае культурніцкае акцыі. І геаграфія лістоў зусім не абмяжоўваецца адным толькі Менскам (заўсёдным палітычны актыўным горадам) – і Навагарадак, і Гомля, і іншыя гарады адгукнуліся на кінуты ў беларускія народныя масы заклікі: "Ваш удзел у конкурсе – гэта яшчэ адна кропля, далучальная да вялікае плыні Адраджэньня нашае Бацькаўшчыны!"

Умовы конкурсу няцяжкія: сачыненьне ці верш павінны быць прысьвечаныя нашай Бацькаўшчыне, ейнай мінуўшчыне, сучаснасьці, будучыні, ейным славутым сынам, а гэтаксама маляўнічым і адметным мясьцінам Беларусі альбо нават простым людзям, якія сваім паўсядзённым жыцьцём нябачна служаць беларускай нацыі.

Для напісаньня твору на конкурс прапаноўваюцца некалькі тэмаў:

1. Цікавая падзея ў гісторыі Беларусі.
2. Велічныя постаці Беларусі.
3. Будучыня Беларусі.
4. Лёс нашае мовы.
5. Адвольная тэма.

Адметна, што РАНА й адміністрацыі школак ніякім чынам ня шкодзяць ладжаньню акцыі й нават часам спрыяюць і садзейнічаюць ейнаму распаўсюду.

Запрашаем і Вас узяць удзел у конкурсе "Беларусь маімі вачыма"! Пасьля напісаньня свайго твору адвольным аб'ёмам на конкурс Вам застаецца толькі пакінуць яго Вашаму мясцоваму арганізатару конкурсу альбо даслаць на адрэсу: 220050, Менск, а/с 64. Сьпяшайцеся! Тэрмін ладжаньня абмежаваны! Жадаем Посьпехаў!

Сябры! Рэдакцыя абвяшчае конкурс на лепшую карыкатуру ці каляж. Галоўная ўмова – каб гэта было "на злобу дня". Аўтар найлепшага графічнага шэдэўру атрымае галоўны прыз – 5 даляраў (ня блытаць з заробкам "прафэсійнага дэманстранта"!) Побач (па-за конкурсам) друкуем выявы наклеек, распрацаваных сп. І.Тышкевічам. Чакаем на вашыя працы!

Рэдакцыя запрашае да ўзаемакарыснага супрацоўніцтва рэгіянальных карэспандэнтаў ды прафэсійных журналістаў. Калі ў Вас ёсьць, што напісаць, і ёсьць аб чым распавесьці – тады мы створаныя адно для аднога! На вас чакае неабсяжная ніва прапаганды беларушчыны. Для Вашых артыкулаў, прысьвечаных публіцыстыцы, асьвятленьню дзейнасьці рэгіянальных арганізацыяў ці расповяду аб цікавых падзеях, заўсёды будзе зарэзэрваваная газэтная плошча! Будзь разам з намі!

Выданьне заснавана менскімі раённымі радамі Маладога Фронту №1(2), люты 1998г.
Рэдакцыйная Рада: А.Міксовіч (галоўны рэдактар), В.Рымашэўскі, В.Мухін, Я.Афнагель, В.Канапацкі, А.Янукевіч.
Пры ўдзеле Макса Кашынскага й Дыяны Мікульскай.
Макетаваньне: Маша Вайцэховіч.
Падрыхтоўка макета - Цэнтар "Выдавецкая ініцыятыва".
Шчыры дзякуй гэтаксама ўсім, хто спрычыніўся да выпуску газэты.
Падпісана ў друк: 5 лютага 1998г.
Меркаваньні аўтараў могуць не супадаць з пунктам гледжаньня рэдакцыі. Адказнасьць за дакладную падачу зьвестак нясуць аўтары матар'ялаў.
Адрэса для допісаў: 220114, Менск, пр-т Скарыны 133-147
Друкарня СПБ Наклад: 299 паасобнікаў.